**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.44, 20.43, 14.59;
Віцебск — 5.30, 20.38, 15.08;
Магілёў — 5.34, 20.32, 14.58;
Гомель — 5.37, 20.23, 14.46;
Гродна — 6.02, 20.56, 14.54;
Брэст — 6.06, 20.53, 14.47.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 13 жніўня.

**ІМЯНІНЫ:**
Першы Спас. Макавеяў, Саламоніі, Елізара



# ЗВЯЗДА

14 ЖНІЎНЯ 1992 г.
пятніца, № 161 (21939)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### КІТАЙЦЫ, ЯПОНЦЫ... ХТО НАСТУПНЫ?

ПІНСК. **(С. Шапіра).** Аб'яднанне «Кавальлітмаш» паказала сябе надзейным партнёрам многіх замежных фірм. Таму так ахвотна ідуць на дзелавыя кантакты з пінскімі машынабудаўнікамі прадпрымальнікі ўсё новых і новых краін.

Толькі што адбыўся візіт у Пінск дэлегацыі прамыславікоў і бізнесменаў Кітая. Завяршыўся ён падпісаннем дагавора аб стварэнні сумеснага прадпрыемства. Ужо выконваецца першы заказ кітайскага боку — гэта два комплексы, на базе якіх плануецца пабудаваць завод. Адзін з комплексаў стане своеасаблівым паявым узносам, а за другі абяцана пастаўка вялікай колькасці тавараў народнага спажывання.

А яшчэ праз некалькі дзён у цэхах аб'яднання загучала японская мова. Гэта была азнаямленчая паездка прадстаўнікоў фірмы па вытворчасці кавальскіх молатаў і сумеснай камерцыйнай фірмы «Нісо Іван». Госці засталіся задаволенымі ўбачаным. Цяпер рыхтуюцца праекты супрацоўніцтва.

### ЦІ ДАПАМОЖА ГЭТА МАЛАДЫМ?

БАБРУЙСК **(А. Дук).** Гарсавет, абмеркаваўшы праблемы мясцовай моладзі, зрабіў значны крок для вырашэння яе праблем. Кожнае прадпрыемства горада абавязана цяпер стварыць пэўную колькасць вакантных месц для прыёму на работу або працоўнага навучання маладых бабруйчан, накіраваных службай занятасці. Калі ж якое-небудзь прадпрыемства не выканае гэтага патрабавання, з яго спаганяецца штраф у памеры гадавога заробку рабочага прадпрыемства.

### УСПОМНІМ ПРА ЛАПЦІ?

НАВАГРУДАК. **(В. Пятровіч).** Дырэкцыя фабрыкі па пашыву і рамонту абутку аб'явіла аб закрыцці ў горадзе ўсіх майстэрань па рамонту абутку. Прычына —стратнасць гэтых прадпрыемстваў толькі з пачатку года склала 80 тысяч рублёў. Вядома, гэта самы кароткі для фабрыкі шлях, каб паправіць уласнае фінансавае становішча. А як быць гараджанам — хто падумаў пра гэта?

## ТЭЛЕГРАМЫ Ў НУМАР

**Паважаныя калегі!**

**Шчыра і сардэчна віншуем вас з нагоды юбілею старэйшай беларускай газеты.**

**Шчасця, дабрабыту, плённай працы, творчай актыўнасці дзеля Бацькаўшчыны.**

**КАЛЕКТЫЎ ГАЗЕТЫ «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА».**

***

**Сардэчна віншуем Вас, добразычлівых і чулых людзей, якім уласціва пачуццё дабрачыннасці і спачування, з нагоды 75-годдзя выхаду першага нумара «Звязды». Шчыра жадаем Вам і ў далейшым праўдзіва адлюстроўваць жыццё беларускага народа. Здароўя Вам і асабістага шчасця.**

**Прэзідэнт БелАХРС**
**У. І. ТРУСЕВІЧ.**



**Добрымі хлебаробамі вырастуць Іван Яфрэмаў і Павел Кавалёў (на здымку)—лічаць у калгасе «Зара» Буда-Кашалёўскага раёна. Падлеткі ў гэтым годзе закончылі дзевяты клас, і ўжо не першае лета старанна дапамагаюць старэйшым у полі, на збожжатаку. Не засталіся Іван і Павел у баку ад хлебаробскіх клопатаў і цяпер.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА. (БЕЛІНФАРМ).**

## ХЛЯБОК ДАРАЖЭЕ...

**А ўсё-такі народ прадчуе сітуацыю: многія зачасцілі ў хлебныя магазіны. У народзе да таго ж мяркуюць: калі ва ўрадзе падрыхтавалі дабрачынную акцыю (цяпер — гэта нядаўняя разавая дапамога пенсіянерам) — значыць, нешта будзе.**
**А ўвогуле мяне папрасілі ў адпаведным міністэрстве паўдзельнічаць у падрыхтоўцы грамадскай думкі.**
**Што і раблю. У бліжэйшыя дні магчыма чарговае павышэнне цэн на хлебабулачныя вырабы. Мяркуецца — у тры разы.**
**Учора аўтар сустрэўся з міністрам хлебанарыхтовак рэспублікі М. ЯКУШАВЫМ. Вось што ён расказаў.**

Наспела неабходнасць выраўнаваць цэны на хлебабулачныя вырабы з акаляючымі рэгіёнамі, абараніць хлебны рынак рэспублікі ад вывазу, а таксама спыніць скармліванне хлеба жывёле. Трэба больш рацыянальна выкарыстоўваць хлеб у сувязі з той сітуацыяй, якая склалася сёлета ў рэспубліцы. Гэта ў першую чаргу недабор ураджаю, кармоў для жывёлы.

На сённяшні дзень у іншых рэспубліках цэны на хлебабулачныя вырабы складаюць ад 9 да 20 і нават больш рублёў за кілаграм. Прычым па інфармацыі, якая маецца, там у хуткім часе яны зноў павінны пайсці ўверх. Цэны рэзка павялічыліся ў іх, а «спажыванне» — у нас: у маі супраць мая леташняга года — на 6 працэнтаў, чэрвені — на 8, ліпені — на 12. Можна меркаваць, хто менавіта спажывае.

А яшчэ міністр назваў лічбы расходавання хлеба ў Мінску, абласных цэнтрах і раёнах — адпаведна 225—230 грамаў на душу насельніцтва, 300—350 і 600 — да кілаграма. Чаму так адрозніваюцца гэтыя лічбы — павінна быць зразумела. Беларусь ніколі не была жытніцай, і мы не можам гэтак разбазарваць хлеб, а потым за валюту шукаць яго з торбай па ўсім свеце.

Трэба таксама ўлічваць, што ў рэспубліцы прыняты новыя закупачныя цэны на збожжа, якое здаецца ў дзяржаўныя рэсурсы. Сярэдняя цана адной тоны — 10,5 тысячы рублёў, што ў 6 разоў вышэй за цэны першага паўгоддзя і ў 37 разоў вышэй мінулага года. Калі зыходзіць з тых закупачных цэн, якія складваюцца цяпер, сярэдні кошт аднаго кілаграма хлебабулачных вырабаў складае 27 рублёў, а цяперашняя сярэдняя рознічная — 4,22. Увогуле ж, каб захаваць цяперашнія цэны на другое паўгоддзе, патрабуецца 13 мільярдаў рублёў датацыі замест прадугледжаных 4.

Гэта што датычыць цэн. Якія віды на нарыхтоўку хлеба, карацей, ці зможам мы яго купіць па якіх бы там ні было цэнах?

Чакаецца, што збяром ураджаю 7 мільёнаў тон у бункернай вазе, пры гэтым адходаў будзе мала, вільготнасць збожжа мінімальная, ураджайнасць цяпер — 30,7 цэнтнера з гектара, ужо сабралі 78 працэнтаў. Раней таксама збіралі 7,5—8 мільёнаў тон. Нашы патрэбнасці — на харчаванне, фураж і іншыя мэты — дзесьці каля 11 мільёнаў. Будзем шукаць. Падпісаны пратакол намераў з Казахстанам на мільён тон, можа,

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПАСТАНОВА
### Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь
### АБ НАДЗВЫЧАЙНАЙ ПАЖАРНАЙ АБСТАНОЎЦЫ НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ І МЕРАХ ПА ПАПЯРЭДЖАННЮ, ЛАКАЛІЗАЦЫІ І ЛІКВІДАЦЫІ ПАЖАРАЎ У ЛЯСАХ, НА ТАРФЯНІКАХ І СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ УГОДДЗЯХ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь адзначае, што ў ліпені і першай дэкадзе жніўня гэтага года на тэрыторыі рэспублікі ў сувязі з засухай і невыкананнем насельніцтвам патрабаванняў пажарнай бяспекі ўзнікла да 5 тыс. ачагоў пажараў у лясах, на тарфяніках і сельскагаспадарчых угоддзях на плошчы больш як 6 тыс. гектараў.

Асабліва небяспечная абстаноўка склалася ў Мінскай і Магілёўскай абласцях. У Барысаўскім, Крупскім, Смалявіцкім, Мінскім, Пухавіцкім, Бабруйскім, Быхаўскім, Глускім і Асіповіцкім раёнах пажары распаўсюдзіліся на вялікія плошчы і нанеслі значны матэрыяльны ўрон.

Такое становішча з'явілася вынікам таго, што выканкомы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, кіраўнікі лясгасаў, калгасаў, саўгасаў, іншых прадпрыемстваў і арганізацый не прымаюць дзейсных і рашучых мер да папярэджання і своечасовага тушэння пажараў. Для барацьбы з пажарамі недастаткова прыцягваюцца людскія і тэхнічныя рэсурсы прадпрыемстваў і арганізацый.

Маюць месца шматлікія факты парушэння грамадзянамі рашэнняў выканкомаў мясцовых Саветаў аб забароне на перыяд высокай пажарнай небяспекі наведвання лясоў і ўезду ў іх транспартных сродкаў, неасцярожнага абыходжання з агнём, што прыводзіць да ўзнікнення пажараў.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Перавесці дзяржаўную сістэму па папярэджанню і дзеяннях у надзвычайных сітуацыях у рэжым надзвычайнага функцыяніравання, для чаго:

ва ўсіх кіруючых органах указанай сістэмы ўстанавіць кругласутачнае дзяжурства адказных службовых асоб, надзеленых адпаведнымі правамі і паўнамоцтвамі;

сілы і сродкі назірання і кантролю за станам навакольнага прыроднага асяроддзя

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**



У Мінску ў штаб-кватэры СНД выпрацаваны парадак дня сустрэчы кіраўнікоў краін Садружнасці ў Бішкеку. Пытанні гаспадарчага заканадаўства і прынцыпы выканання міждзяржаўных рашэнняў прэм'ер-міністры будуць абмяркоўваць на сумесным пасяджэнні з кіраўнікамі дзяржаў. Гаворка пойдзе таксама аб супрацоўніцтве ў складаны асенне-зімовы перыяд, узаемадзеянні ў галіне паштовай і тэлефоннай сувязі. Хутчэй за ўсё зноў не ўдасца разгледзець пытанні падзелу неваеннага флоту былога СССР, а таксама ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

***

**СЕННЯ ў Мінск прыбываюць удзельнікі Маршу салідарнасці «Жыццё дзеля жыцця». Пасланцоў нацыянальнай італьянскай канфедэрацыі «Міласэрнасць» благаславіў сам папа рымскі. Стартаваўшы ў Фларэнцыі, караван аўтамашын прайшоў з місіяй дружалюбнасці па дарогах Італіі, Аўстрыі, Польшчы.**

***

Прыкладна 10 мільёнаў рублёў будзе затрачана на ўрачыстасці з нагоды перамогі дэмакратычных сіл, якія намечаны на 19-22 жніўня. Аднак ні капейкі з гэтай сумы не будзе патрачана ні з маскоўскага, ні з расійскага бюджэтаў. Усе неабходныя сродкі дадуць спонсары. Спецыяльны цыкл «Тры дні ў жніўні» да гадавіны путчу рыхтуе радыё «Свабода». На пытанні слухачоў будзе адказваць экс-прэзідэнт экс-краіны Міхаіл Гарбачоў.

***

**Авіядыспетчары аэрапортаў «Дамадзедава» і «Быкава» патрабуюць падняць ім заработную плату з 20 да 60 тысяч рублёў у месяц. Міністр транспарту Расіі Віталь Яфімаў звярнуўся да кіраўніцтва Маскоўскай вобласці з прапановай прадумаць гэтае пытанне, бо авіядыспетчары з 15 жніўня маюць намер пачаць забастоўку.**

**Старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) Мікалай СТАТКЕВІЧ:**

## «НАМ НІХТО НЕ ЗАБАРОНІЦЬ БЫЦЬ ПАТРЫЁТАМІ»

**— Ствараецца беларускае войска. Без вашай арганізацыі гэты працэс уявіць немагчыма. Я ведаю, што пры існаванні беларускай ваеннай акругі вышэйшыя армейскія чыны ставіліся да вас насцярожана. Але зараз, напэўна, многае змянілася ў адносінах да БЗВ з боку цяперашніх першых асоб міністэрства абароны?**

— Самае парадаксальнае ў гэтай сітуацыі тое, што якраз тады, калі мы былі ледзь не на нелегальным становішчы, да нас ставіліся значна лепш, чым цяпер.

Сапраўды, здаецца, мы павінны актыўна ўдзельнічаць у беларусізацыі войска, канцэпцыю якога мы распрацавалі яшчэ тры гады назад. Але... Такое ўражанне, што для міністэрства абароны мы сталі ледзь не самай галоўнай праблемай. Ва ўсякім выпадку, кансенсусу ніяк не атрымліваецца. І, мушу заўважыць, не па нашай віне. Два з паловай месяцы дамаўляемся сустрэцца з прадстаўнікамі міністэрства. Быццам бы ўжо і дамоўленасць наконт сустрэчы існуе, але ў самы апошні момант яна адмяняецца. І так да сённяшняга дня. А ў гэты час ужо пачаліся звальненні сяброў БЗВ, развязваецца непрыкрытая кампанія самага сапраўднага ганення. 4 жніўня ад імя міністэрства абароны ў «Советской Белоруссии» быў вылучаны цэлы шэраг абвінавачванняў у адрас нашай арганізацыі. Ды такіх, што, калі б хоць адно з іх было праўдзівым, асабіста мяне трэба б было прыцягваць да крымінальнай адказнасці.

Вы паглядзіце падшыўку газеты «Во славу Родины» — органа міністэрства абароны. Амаль у кожным нумары адмоўныя выказванні ў адрас БЗВ. Нам «шыюць» палітычную афарбоўку, але мы ўвесь час заяўлялі і заяўляем, што мы —не палітычная арганізацыя. Нават да рэферэндуму не маем ніякага дачынення. Наша справа — патрыятычнае выхаванне вайскоўцаў, і нам ніхто не забароніць быць патрыётамі. Тым больш, што асноўную сваю дзейнасць вядзём у непрацоўны час.

Не выганялі ж у свой час членаў КПСС, палітычнай арганізацыі, з арміі. Цяпер некаторыя ваенкаматы адкрыта збіраюць неакамуністаў, але чамусьці на гэта заплюшчваюць вочы.

**— Ці сведчыць гэта аб неакамуністычнай афарбоўцы большай часткі ваенных?**

— Я не магу сказаць за ўсё міністэрства. Скажу адно: ствараецца ўражанне, што погляды і перакананні прарускі настроеных афіцэраў бліжэй першым асобам нашых Узброеных Сіл, чым погляды афіцэраў-патрыётаў.

Не сакрэт, што ў афіцэрскім саставе беларускай арміі толькі 15 працэнтаў ураджэнцаў Беларусі. Астатнія — прыезджыя. І ад некаторых з іх можна пачуць шмат абраз у адрас беларускага народа, мовы, С. Шушкевіча. Гэтых людзей трэба выхоўваць, а іншых і прымушаць шукаць новае месца службы. Аднак нават тых рускіх афіцэраў, якія просяцца на радзіму, туды не адпускаюць.

У міністэрстве скардзяцца, што не хапае выкладчыкаў беларускай мовы, і адначасова звальняюць прыхільнікаў БЗВ, якія ведаюць і мову, і гісторыю. Тлумачэнне можа быць толькі адно — цяпер патрэбна вельмі паслухмянае войска, якое можа выканаць любы, нават неканстытуцыйны, загад.

**— На ваш погляд, у паветры запахла ваенным пераваротам?**

— Калі Гарбачоў сцвярджаў аб магчымасці ваеннай дыктатуры ў Расіі ў бліжэйшым часе, то могуць, на маю думку, у грамадзянскую вайну ўцягнуць і нас. І невядома, як будзе сябе паводзіць наша армія, якая фактычна яшчэ не прыведзена да прысягі на вернасць беларускаму народу.

**— Але ж рашэнне аб прысязе ўжо прынята?**

— Прынята. Пасля таго, як Украіна даўно ўжо прывяла свае войскі да сваёй прысягі, і Расія пачала прыводзіць да сваёй. А беларускім вайскоўцам дадзены тэрмін у пяць месяцаў, каб прыняць рашэнне, любяць яны сваю Радзіму ці не. І што гэта за праблему ставіць міністр аб нейкай асаблівай прысязе? Гэта, выходзіць, будзе салдацкая, будзе афіцэрская, генеральская, міністэрская ці яшчэ якая? Я гэтага не разумею.

**— Мікалай Віктаравіч, мне вядома, што БЗВ даволі сур'ёзна займалася злоўжываннямі службовым становішчам у арміі, іншым армейскім негатывам. Ці зменшылася гэта, так сказаць, нагрузка?**

— Негатыву столькі, што мы проста не ў стане займацца ўсім гэтым. Прэс-канферэнцыя з трыма «апальнымі» падпалкоўнікамі (К. Шыманцом, М. Харахновым, Ю. Далматавым) павінна нешта дадаць у сэнсе раскрыцця ваенных злоўжыванняў. Дарэчы, усе трое звольнены з Узброеных Сіл за сваю прынцыповую пазіцыю ў адносінах да армейскага «бязмежжа».

Прычым, гэта толькі нязначная частка пацярпеўшых ад «дзедаўшчыны» ў вышэйшых армейскіх эшалонах улады. Злоўжыванні службовым становішчам у Бабруйскай танкавай арміі — дробязь у параўнанні з фактамі, калі ў Польшчу вывозіліся ваенныя «КамАЗ» альбо розныя дэфіцытныя рэчы самалётамі. У той жа час нам трэба думаць аб уласным выжыванні, таму мы дапамагаем тым, хто сам можа змагацца супраць безуладдзя і развалу ў арміі.

**— А як ставіцца БЗВ да афіцэраў-беларусаў, якія хочуць служыць тут, і беларускіх салдат-дэзерціраў?**

— Афіцэры-беларусы — нашы грамадзяне, і яны маюць права вяртання на радзіму. У былой БВА з такімі хоць размаўлялі, у міністэрстве ж — перагаворы ідуць толькі па тэлефоне, і ніякіх крокаў насустрач такім афіцэрам, наколькі я ведаю, не робіцца.

Што датычыцца салдат-дэзерціраў. Я разумею тых салдат, хто бяжыць з-за мяжы на Радзіму. Тых жа ўраджэнцаў Беларусі, хто бяжыць з беларускага войска, трэба караць самым жорсткім чынам. Дэзерцірства ні ў якія часы не было ў пашане. Іншая справа, што трэба ўлічваць той нізкі маральны дух і развал патрыятычнай працы, якія пануюць у арміі.

**— Вы лічыце, што ніша былых намеснікаў па палітычн. рабоце пустуе?**

— Я ўпэўнены ў гэтым. Афіцэр, які займаецца выхаваннем падначаленых, павінен ведаць родную мову, гісторыю народа, які ён абараняе. Колькі ў нас такіх афіцэраў?

**— А што робіць ваша згуртаванне, каб запоўніць гэту нішу патрыятычнага выхавання?**

— Мы выдалі праз газеты мільён 300 тысяч асобнікаў «Ваеннай гісторыі Беларусі», плануем выдаць патрыятычныя матэрыялы для моладзі, вядзём прапаганду ў войсках, працуем з ваенрукамі ў школах. Няблага атрымліваецца ў нас ва ўнутраных войсках, якія адышлі да міністэрства ўнутраных спраў. Дарэчы, з яго міністрам У. Ягоравым у нас амаль няма ніякіх непаразуменняў. Там можна сказаць: ідзе беларусізацыя.

Увогуле я ўсё ж упэўнены, што прыйдзе час, і БЗВ не будзе патрэбна арміі. Што патрыятызм будзе тым, што само сабой разумеецца. Што свядомасць грамадства і адной з яе асноўных частак — арміі — сапраўды стане нацыянальнай. Ва ўсякім выпадку, хочацца у гэта верыць.

**Гутарыў**
**Аляксандр КОКТЫШ.**

## ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

### ВАША ЗДАРОЎЕ

### Лячэбная гліна

*Чуў, што старажытныя людзі выкарыстоўвалі гліну ў якасці лячэбнага сродку і нават прымалі яе ўнутр. Ці не маглі б вы расказаць пра гэта падрабязна?*

*Бярэзінскі раён.*

*Сяргей СЦЯПАНАЎ*

**За кансультацыяй мы звярнуліся да кандыдата медыцынскіх навук Уладзіміра МАЛІНОЎСКАГА:**

ГЛІНАЛЯЧЭННЕ — адзін са старажытных метадаў. У апакрыфічных евангеллях на гэта ўказвае Ісус. З вялікім поспехам прымяняў гліналячэнне абат Кнейп пры запаленнях, абсцэсах, болях у спіне, галаве, пухлінах. Страсным прапагандыстам гліналячэння быў Гандзі. На думку Рамола Мантавані (1966 г.), гліна канцэнтруе ў сабе жыватворны сонечны магнетызм і магнетызм вады і паветра. Яна ачышчае хворыя і аслабленыя клеткі, адрывае адмерлыя, абнаўляе тканкі новымі, аднаўляе нармальны абмен рэчываў. Гліна мае амаль усе мікраэлементы, якія патрэбны нашаму арганізму.

У Расіі гліналячэнне было прапанавана сто гадоў назад (1891 г.) А. Н. Пакроўскім, але шырокае прымяненне яно атрымала ў 30-я гады. Гліналячэнне прайшло шматгадовыя выпрабаванні ў бальнеафізіялячэбніцах і на курортах.

ГЛІНУ ЛЕПШ БРАЦЬ



ТЛУСТУЮ. Яна валодае высокай пластычнасцю, вялікай вязкасцю, добрым прыліпаннем да цела. Каб вызначыць тлустасць, неабходна развесці вадой гліну ў прабірцы. Пасля ўзбоўтвання тлустая гліна дае, у адрозненне ад пустых, цяжкаадстойвальную вадкасць. А пустая хутка выпадае ў асадак.

Для вонкавага прымянення гліну высушваюць, раздрабняюць малатком у парашок, перабіраюць уручную, выдаляюць прымесі, заліваюць халоднай вадой, перыядычна памешваючы, даводзяць да кансістэнцыі густой смятаны. Потым награюць на вадзяной бані да тэмпературы 45—50 градусаў і накладваюць аплікацыю на хворы ўчастак слоем 4—5 см на 15—20 мінут. Зверху кладуць кавалак байкавай ці шарсцяной тканіны і абвязваюць марляй. Працэдуру паўтараюць праз 1—3 дні, колькасць працэдур — ад 10 да 20. Пасля аплікацыі цела абмываюць цёплай вадой ці прымаюць душ.

МОЖНА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ГЛІНУ І БЕЗ НАГРАВАННЯ. Намазаць ёю складзеную ўдвая анучку, прыціснуць да хворага месца і абвязаць кавалкам шарсцяной тканіны. Працяглацсь гэтай працэдуры — каля дзвюх гадзін. Паўторна выкарыстоўваць гліну нельга. Можна таксама рабіць прымочкі гліністай вадой. Вельмі добра дабавіць у такую ваду 2—3 долькі часнаку. Дапамагаюць такія прымочкі і расціранні пры артрытах і нервовым паралічы. Для ўзмацнення рассмоктвальнага дзеяння можна дабавіць крыху 5-працэнтнага шкіпінару. Рамола Мантавані ў сваёй працы «Майстэрства вылечваць самога сябе прыроднымі сродкамі» (Францыя, 1966 г.) рэкамендуе гліналячэнне пры многіх хваробах. Гэта поліартрыты, падагра, неўралгія, неўрыты, экзема, фурункулы і інш. Пры хваробах горла ён раіць паласканні глiністай вадой. Пры хваробах зубоў чысціць іх глінай і паласкаць поласць роту глiністай вадой. Пры варыкозным расшырэнні вен рабіць расціранне і глiністыя прымочкі. Пры аблысенні рабіць 3 разы на дзень расціранне сумессю з глiністай вады, нацёртага часнаку і соку цыбулі. А для амалоджвання скуры твару трэба часцей мыцца глiністай вадой.

Рамола Мантавані лічыць, што гліну можна прымаць і вонкава, і ўнутр, пры ўсіх хваробах і ў любым узросце. Аднак класічны метад гліналячэння (падагрэтая да 40—45° гліна) процiпаказаны пры злаякасных новаўтварэннях, ліхаманцы ці вострым пачатку хваробы.



### СМАЧНА ЕСЦІ!

### Кабачкі па-італьянску

Кабачкі ачышчаюць, наразаюць кубікамі і тушаць з маслам, дадаўшы дробна нарэзаную рэпчатую цыбулю і булён. Потым кабачкі запраўляюць таматным соусам, соляць, пасыпаюць звараным укрутую і пасечаным яйкам, нацёртым сырам, заліваюць нарэзаным і абсмажаным салам і запякаюць у духоўцы на працягу 10 мінут.

Гатовую страву пасыпаюць дробна нарэзаным зяленівам кропу.

**500 г кабачкоў, 1 ст. лыжку сметанковага масла, 1 цыбуліну, 3/4 шклянкі булёну, 1 шклянку таматнага соусу, 50 г сала, 1 яйка, 50 г сыру, зяленіва кропу, соль.**

### Кабачкі, фаршыраваныя рысам, тварагом і морквай

Кабачкі ачышчаюць ад скуркі і наразаюць кружочкамі таўшчынёй 4—5 см. Лыжкай выцягваюць частку мякаці з насеннем, пасля чаго кабачкі вараць да паўгатовасці і напаўняюць фаршам.

Для фаршу дробна нашынкаваную ці нацёртую на буйной тарцы моркву прыпускаюць з маслам. Рыс вараць да паўгатовасці і злучаюць з працёртым тварагом і прыпушчанай морквай. Потым запраўляюць сырымі яйкамі і цукрам.

Напоўненыя фаршам кабачкі кладуць на змазаныя маслам бляху ці патэльню, заліваюць малочным соусам, пасыпаюць нацёртым сырам і запякаюць у духоўцы.

Для прыгатавання соусу пшанічную муку абсмажваюць на масле да светлакрэмавага колеру, потым разводзяць яе гарачым малаком, няспынна памешваючы, кладуць соль, цукар і праварваюць 5—7 хвілін. Пасля варкі соус астуджаюць да 50—60°C і ўводзяць яечныя жаўткі.

**1 кг кабачкоў, 400 г тварагу, 6 морквін, шклянку рысу, 3 яйкі, 100 г сметанковага масла, 1 ст. лыжку сыру, соль; для соусу: $2\frac{1}{2}$ шклянкі малака, 2 ст. лыжкі пшанічнай мукі, 20 г сметанковага масла, $\frac{1}{2}$ чайнай лыжкі цукру, 1—2 яечныя жаўткі, соль.**

### Варэнне... з нічога

У эканомнай гаспадыні кожная крыха ідзе ў справу. З корак арбузаў і дынь можна прыгатаваць выдатнае варэнне.



Коркі ачышчаюць ад мякаці і асцярожна знімаюць тонкім слоем грубую верхнюю скурку. Потым іх рэжуць на прамавугольныя долькі, прамываюць халоднай вадой і, каб зберагчы ад разварвання, на працягу 20—30 хвілін замочваюць у 2—3-працэнтным растворы солі. Пасля гэтага коркі арбузаў і дынь апускаюць на 8—10 хвілін у ваду, нагрэтую да 85—95 градусаў, а потым кладуць у таз з астуджаным цукровым сіропам (вады — 60, цукру — 40 працэнтаў).

Каб варэнне было высокай якасці, трэба варыць яго 3—4 разы па 12—15 хвілін. Час варкі лічаць з моманту закіпання сіропу. Пасля кожнай з іх таз знімаюць з агню і астуджваюць на працягу 2—3 гадзін. Пры гэтым коркі арбузаў і дынь прапітваюцца цукровым сіропам і становяцца празрыстымі.

**Расход цукру — 900 грамаў на кілаграм корак.**

### Не выкідайце

**...сметанковае масла,** калі яно набыло непрыемны пах, патрымайце некалькі гадзін у вадзе, дадаўшы ў яе крыху пітной соды. Потым добра апаласніце вадой;

**...нарэзаную цыбулю** пакладзіце ў шкляны слоік, дадайце крыху алею, закрыйце шчыльна накрыўкай і пастаўце ў халадзільнік. У такім выглядзе яе можна захоўваць некалькі дзён;

**...смажаную рыбу, што засталася ад абеду ці вячэры,** пакладзіце ў вогнетрывалую пасуду, змазаўшы яе алеем, дадайце крыху таматнага соку, пасыпце нацёртым сырам і тоўчанымі сухарамі, падрумяньце ў духоўцы;

**...халодныя аладкі, пончыкі і іншыя смажаныя ў масле мучныя вырабы** зноў стануць гарачымі і свежымі, калі патрымаць іх на рашотцы ці друшляку над каструляй з кіпячай вадой (пара павінна праходзіць праз іх). Падагрэтую выпечку адразу ж падаць на стол;

**...мяса з «душком»** пакладзіце на 10 хвілін у слабы працэджаны адвар рамонку. Памыйце халоднай вадой. Калі пах застаўся, паўтарыце працэдуру яшчэ раз. Рэкамендуецца больш працяглая цеплавая апрацоўка;

**...падгарэлае малако.** Непрыемны пах знікне, калі адразу ж пераліць малако ў іншую пасуду і накрыць яе мокрай сурвэткай.

### Сілкаванне ў халадзільніку

**Гэтая парада — для тых, хто карыстаецца мікрарадыёпрыёмнікамі, мікракалькулятарамі, іншай падобнай тэхнікай. Але не пастаянна, а час ад часу, нерэгулярна. Калі мікратэхніка працяглы час не будзе выкарыстоўвацца, выньце з яе элемент або батарэйку сілкавання і пакладзіце на захоўванне ў халадзільнік, папярэдне запакаваўшы ў непрамакальную паперу, пергамент і г.д. Так элементы сілкавання праслужаць вам намнога больш за гарантыйны тэрмін.**

# БЕЛАРУШЧЫНА

НАРОДНЫЯ ЎМЕЛЬЦЫ

## ДЗІЦЯЧЫЯ ДУШЫ ПРАГНУЦЬ ПРЫГОЖАГА

**Часам здаецца, што згубілі мы сакрэты народных умельцаў, беззваротна страцілі традыцыйныя беларускія промыслы і рамёствы. Некаторыя пераканаaны, што цяпер няма адкуль вяртаць гэтыя народныя навукі. Але сустрэнеш сапраўднага майстра — і з задавальненнем адзначыш: у яго ёсць кемлівыя вучні.**

Такога народнага ўмельца сустрэла я ў пасёлку Праўдзінск Пухавіцкага раёна. Былы настаўнік, а цяпер сталяр, Павел Васільевіч Талапіла ў вольны час працуе з дзецьмі — вядзе гурток у мясцовым Палацы культуры.

Калі ўпершыню прыйшоў сюды і прапанаваў свае паслугі, яму сказалі: «Умелыя рукі» тут ужо ёсць. Але, як высветлілася, працаваць з саломкай дзяцей не вучылі. Нават і не ўяўлялі многія, што столькі прыгожых вырабаў можна атрымаць з яе.

Арыгінальныя пано, вешалкі, палічкі, дзівосныя скарбонкі — чаго толькі не зробіш са звычайнай фанеры і саломкі. Тэхналогія вырабу, напрыклад, пано, нескладаная. Кавалак фанеры ачышчаецца, пакрываецца фарбай, потым сталярным клеем, пасля чаго мокрай разрэзанай саломкай наносіцца малюнак. Два-тры заняткі — і ва ўмелых руках пано гатова.

Павел Васільевіч прымае ў гурток усіх жадаючых. Ёсць толькі адно выключэнне — дужа не любіць двоечнікаў.

На выставе ў фае Палаца культуры прадстаўлены лепшыя работы яго выхаванцаў. Аб тым, што гледачы не застаюцца абыякавымі да творчасці гурткоўцаў, сведчыць хаця б такі факт: невядомы прыхільнік народнай творчасці своеасабліва вырашыў прадэманстраваць сваё захапленне— выкраў дзве работы.

Прозвішчы Іры Дабрадзей, Наташы Гражданкінай, Наташы Сцефановіч, Лёшы Філімонава, Косці Кольца, Наташы Гаўрык вядомы праўдзінцам, дзякуючы менавіта гэтай выстаўцы.

Вучыць дзяцей народнаму рамяству Павел Васільевіч пачаў пасля таго, як аднойчы яго работы трапілі на выстаўку ў Эрмітаж. У народнага ўмельца традыцыйна шмат вучняў: дзеці імкнуцца спасцігнуць навуку прыгожага, каб самім ствараць тое, што некалі стваралі іх дзяды і прадзеды.

**Аліна ГРЫШКЕВІЧ.**
**пасёлак Праўдзінск, Пухавіцкага раёна.**

**Беларусь дала шмат славутых імёнаў. Але свет (і нават сама Беларусь!) мала пра гэта ведае. Наша спадчына ўтрымлівае не толькі выдатныя творы народнага мастацтва, але і складаныя навуковыя даследаванні. Яшчэ ў XVII стагоддзі ўраджэнец Беларусі Казімір Семяновіч здолеў зазірнуць у навуцы далёка наперад: ён вынайшаў спосаб стварэння шматступеньчатых ракет, прыдумаў іх дадатковыя рухавікі, стабілізатары тыпу «дэльта». Яго кніга «Вялікае мастацтва артылерыі» на многія гады прадвызначыла шляхі развіцця еўрапейскай артылерыі, лягла ў падмурак будучай касманаўтыкі.**

**Лёсу і даследаванням Казіміра Семяновіча прысвечана аднайменная кніга кандыдата фізіка-матэматычных навук Аляксандра Бельскага і доктара гістарычных навук Міхася Ткачова, якая выйдзе ў выдавецтве «Навука і тэхніка».**

**Наш карэспандэнт гутарыць з Міхасём ТКАЧОВЫМ.**




НЕВЯДОМЫЯ СЛАВУТАСЦІ

# Першы ракетчык Еўропы — беларус Казімір Семяновіч

— Як атрымалася, што мы доўгі час нічога не ведалі пра Казіміра Семяновіча?

— Для Беларусі не рэдкасць запозненае вяртанне імёнаў славутых сыноў: некаторых свядома забывалі, ставячы «табу» на іх творчасці, а іншых проста аддалі суседзям. Такі лёс, напрыклад, быў у Скарыны — яго спачатку запісалі рускім друкаром, і ў Гусоўскага — у гісторыі літаратуры ён значыўся польскім паэтам-лаціністам. А Казіміра Семяновіча, чалавека фенаменальнага складу мыслення, энцыклапедыста сваёй эпохі, бліскучага навукоўца, артылерыста і піратэхніка, зрабілі літоўцам.

— Літоўцам?..

— Справа ў тым, што ён называў сябе «шляхціц-літвін». Гэтае слова — «літвін» — і ўвяло ў зман даследчыкаў: раз літвін, значыць, літовец. А літоўцы хуценька перарабілі імя на Казімірас Сыманавічус... Аднак Семяновіч быў грамадзянінам Вялікага княства Літоўскага (адсюль «літвін»), паходзіў са старажытнага княжацкага роду, які ў XIV—XVI стагоддзях валодаў землямі Беларускага Падняпроўя: ваколіцамі Быхава, Дубровенскімі пусткамі — пра гэта сведчыць грамата 1393 года.

— Якім жа чынам літоўскія даследчыкі «прысвоілі» ўраджэнца Беларусі, даказалі тое, што не адпавядае рэальнасці?

— Нашага Семяновіча штучна прывязалі да нейкага Казіміраса Сыманавічуса, які быццам бы ў канцы 40-х гадоў XVII стагоддзя вучыўся ў Віленскім універсітэце, абараніўся на магістра філасофіі... Гэта ўсё шыта, як гаворыцца, белымі ніткамі, бо да гэтае пары Семяновіч ужо быў сталым чалавекам, меў каласальныя веды ў галіне матэматыкі, фізікі, хіміі, гідраўлікі, пнеўматыкі, ліцейнай справы. Асноўны яго інтарэс, заўважце, — у галіне прыродазнаўчых, тэхнічных навук, а не філасофскіх...

Дарэчы, і сваё прозвішча ён пісаў менавіта Семяновіч, а не Сыманавічус (польскія даследчыкі знайшлі адпаведныя дакументы).

Што да Літвы сённяшняй ён не меў ніякага дачынення, сведчыць... і ягоная кніга. Яе тэрміналогія сугуба тэхнічная, навуковая. Але ўявіце, ён апісвае састаў пораху — і раптам заначае: я ўспамінаю, як у нас на Купалле старыя-малыя запальвалі вогнішча і скакалі праз яго, спраўлялі карагоды.

— І гэта — у кнізе пра артылерыю?

— Так! Мяне ажно закалаціла, калі прачытаў: гэтак можа напісаць толькі беларус. Потым улавіў у тэксце некалькі чыста беларускіх слоў, напрыклад, назвы вагі. Беркавец — 10 пудоў, я калісьці вёў раскопкі ў Браслаўскім раёне, там пачуў ад аднаго дзядка. Слова выдае радзіму Семяновіча — Віцебшчыну. Ды ён і сам тлумачыць: «беркавец» ужываюць толькі ў нас і ў суседзяў-«маскавітаў». Нават праз латынь гучыць беларушчына!

— Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра саму кнігу «Вялікае мастацтва артылерыі».

— Яна выйшла ў Амстэрдаме ў 1650 годзе на латыні, міжнароднай мове тых часоў, і мела поспех ва ўсёй Еўропе. Літаральна праз некалькі гадоў яе выдалі французы, потым немцы, англічане. Гэта быў настольны падручнік для гарматчыкаў Еўропы. У бібліятэцы Пятра І таксама быў нямецкі пераклад кнігі.

У кнізе — 206 малюнкаў, выкананых самім аўтарам. Пры падрыхтоўцы кнігі Семяновіч падняў літаратуру ад старажытнасці да сучаснасці: робіць спасылкі на творы больш чым двухсот аўтараў. Гэта быў па-сапраўднаму высокаадукаваны чалавек, паліглот.

У сваім даследаванні ён аналізуе метады вызначэння калібру гармат, радыуса і вагі ядзер у залежнасці ад матэрыялу, падрабязна апісвае спосабы атрымання і ачысткі саставных частак пораху і праверкі яго баявых якасцей — пры гэтым не абыходзіць увагаю спосабы захоўвання пораху і нават найбольш ужывальныя рэцэпты лячэння апёкаў. Семяновіч, цудоўны феерверкер, раскрывае сакрэты піратэхнічнага афармлення феерверкаў, што наладжваліся пад час свят і ўрачыстасцей, спосабы вырабу розных выбуховых і запальных прадметаў для феерверкаў і ваенных мэт: выбуховых гаршкоў, запальных гірляндаў, вогненных слупоў і г. д. Ён выкладае таксама вынікі ўласных доследаў і эксперыментаў па залежнасці далёкасці палёту ядра ад даўжыні гарматы, яе калібру, колькасці закладзенага пораху... Асаблівую цікавасць уяўляе, безумоўна, раздзел, прысвечаны метадам разліку і вырабу ракет розных тыпаў.

— Да таго часу ракеты ўжо былі вядомы?

— Парахавыя ракеты з'явіліся ў Кітаі каля Х стагоддзя, пазней сталі вядомымі ў Індыі і сярэдневяковай Еўропе. Але выкарыстоўваліся яны рэдка, у асноўным у піратэхніцы пры афармленні святочных феерверкаў: у небе круціліся вогненныя колы, рассыпаліся снапы шматколерных іскраў. Менавіта Семяновіч прапанаваў некалькі новых тыпаў ракет — гэта ён задоўга да Цыялкоўскага вынайшаў шматступеньчатую ракету, якая з'яўляецца продкам сучасных магутных касмічных ракет. Важна адзначыць, што ён выступаў не як рамеснік, а як вучоны-прыродазнаўца: правёў мноства эксперыментаў, каб высветліць уплыў знешняга контуру ракеты на ўстойлівасць і далёкасць яе палёту, склаў табліцу даўжыні ракет па дыяметры... Пра ўсё гэта больш падрабязна Семяновіч меркаваў напісаць у другой частцы кнігі, пра што паведаміў у прадмове да першай. Але раптоўная смерць перашкодзіла ажыццявіць задуманае.

— Раптоўная смерць?

— Гісторыя не гаворыць, памёр ён сваёй смерцю, альбо загінуў пад час доследаў з выбуховымі рэчывамі, ці быў забіты піратэхнікамі за выкладзеныя ў кнізе сакрэты рамяства: на той час спецыяльнасць артылерыста, феерверкера лічылася таямнічай, адзінкі ўмелі ладзіць феерверкі, і іх лічылі амаль чарадзеямі. Яны надзейна захоўвалі свае сакрэты, чужых у свой «цэх» не дапускалі. Магчыма, Семяновічу проста адпомсцілі за «галоснасць».

— Усё яшчэ папулярнае ў «грамадскай свядомасці» меркаванне, што беларусы Сярэдневякоўя былі забітымі, зусім неадукаванымі, а тут нечакана...

— Гэта вынікі заганнага падыходу да мінуўшчыны, які насаджаўся дзесяцігоддзямі. Панавала штучная схема: гісторыя Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай нас не датычыць, вось і засеў стэрэатып: беларусаў заваёўвалі то літоўцы, то палякі, а потым усе вызвалялі... Беларусь ніколі не была «белай плямай» на карце Еўропы, і не трэба думаць, што Казімір Семяновіч — незвычайная ўспышка сярод цёмнай ночы. У першай палавіне XVII стагоддзя ўзровень культуры, адукацыі на нашых землях быў досыць высокі, многія жыхары беларускіх гарадоў ездзілі вучыцца ў заходнееўрапейскія універсітэты (па падліках гісторыкаў, ураджэнцы Беларусі вучыліся больш чым у 60 універсітэтах гарадоў Еўропы). Аналізуючы халодную, агнястрэльную зброю, засцерагальныя ўзбраенні розных тыпаў, прыходзім да высновы, што тутэйшая ваенная тэхніка была на агульнаеўрапейскім узроўні. У Вільні, Нясвіжы, Быхаве, Магілёве, іншых гарадах адліваліся гарматы дзівоснай формы, многія з іх сёння ўпрыгожваюць лепшыя музеі— аднак, на жаль, не нашай краіны.

— Гэтыя страты звязаны з войнамі, якіх на нашай зямлі было багата?

— Не толькі. У 1921 годзе на падставе спецыяльнага сакрэтнага дадатку да Рыжскага дагавора ўсе культурныя каштоўнасці Заходняй Беларусі, што знаходзіліся ў Ленінградзе, былі аддадзены Польшчы...

Наш святы абавязак — выдаць кнігу Семяновіча на беларускай мове як помнік гісторыі тэхнікі. І скульптарам самы час выканаць сацыяльны заказ — стварыць вобраз гэтага унікальнага чалавека, папярэдніка Цыялкоўскага і Каралёва. Я прапанаваў бы паставіць помнік Казіміру Семяновічу перад уваходам у Акадэмію навук Рэспублікі Беларусь — гэта было б і сімвалічна, і да месца. А помнік геніяльнаму Скарыну паставіць у больш зручным для мітынгаў месцы — напрыклад, добраўпарадкаваўшы цяперашнюю плошчу Калініна (помнік Калініну можна перанесці ў спецыяльна створаны музей скульптуры таталітарнага грамадства).

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

**На здымках:** вокладка французскага варыянта кнігі Семяновіча, выдадзенай у 1651 годзе; чарцяжы ракет, распрацаваных Семяновічам.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# ПЕСЕНЬКА СПЕТА?..

**У мінулым выпуску «Беларушчыны» мы змясцілі пісьмо «У «Нотах» — дэтэктывы», у якім гаворка ішла пра адсутнасць у спецыялізаваным магазіне музычных твораў на роднай мове. Куды ж падзеліся беларускія спеўнікі? Каб высветліць гэта, мы накіраваліся ў выдавецтва «Беларусь».**

Вядучы рэдактар групы па выпуску музычнай літаратуры Валянціна Мікалаеўна Лучанок расказала, што нямала цікавых кніжак, даўно падрыхтаваных да друку, мёртвым грузам ляжыць на рэдактарскім стале. Сярод іх — сувенірнае выданне беларускіх народных песень «Вяночак», музычна-літаратурная кампазіцыя па матывах аднайменнай народнай камедыі «Несцерка» А. Вольскага і Р. Суруса. Ажно два гады чакаюць гэтыя творы выхаду ў свет. Уся бяда ў тым, што гандаль лічыць іх менш прыбытковымі, чым тыя ж дэтэктывы. Ды і каштуюць яны для выдавецтва на сённяшні дзень занадта дорага. А ў тых кніжак, якія ў рэшце рэшт трапілі ў рукі чытача, — без перабольшання — блуканне па пакутах. Вось, напрыклад, выпусціла нядаўна «Беларусь» зборнік «Музыка на ўроках танцаў», так патрэбны студэнтам вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, а таксама выкладчыкам і канцэртмайстрам харэаграфічных студый і гурткоў мастацкай самадзейнасці. Але гандаль чамусьці даў заказ толькі на 500 экземпляраў. Улічваючы попыт, група па выпуску музычнай літаратуры рызыкнула павысіць тыраж да адной тысячы экземпляраў (што, заўважым, таксама мізэр).

Кніжка выйшла з незвычайнай паметкай на тытульным лісце: «Выпушчана па дзяржаўнаму заказу. Калектыў выдавецтва «Беларусь» накіраваў са свайго рахунку 800 тысяч 400 рублёў для кампенсацыі страт ад выдання кнігі. З дзяржбюджэту выдаткавана 69 тысяч 500 рублёў». Дарэчы, такія дапаўненні ўсё часцей пачалі друкавацца на нотнай прадукцыі, што з'яўляецца своеасаблівым крыкам аб дапамозе.

Музычная рэдакцыя ў асноўным выконвае заказы Міністэрства адукацыі на падручнікі. Але зараз сітуацыя наогул незразумелая: калі ў 1989 годзе падручнік для музычных школ каштаваў 55 капеек, то цяпер яго цана — 10 рублёў 70 капеек. Музычная прадукцыя падаражэла амаль у 20 разоў, так што Міністэрства адукацыі можа выкупіць толькі невялікую яе частку.

— Вось чаму замест 14 запланаваных на гэты год вучэбных выданняў выпушчана толькі 7. Каб неяк выйсці з цяжкага становішча, выдавецтва «Беларусь» пачало выпускаць замежныя дэтэктывы, а група па выпуску музычнай літаратуры вымушана рэдагаваць кніжкі пра балет, рок-музыку, дзе няма ніводнага радка нот. І хаця рэдакцыя музычных выданняў скарацілася ўдвая і складаецца з трох чалавек, усё ж прадаўжае ўпарта змагацца за існаванне: хутка павінен выйсці зборнік «Беларускі дзіцячы фальклор», творы Г. Вагнера і В. Яканюка «Я іграю на раялі» (беларускія народныя песні і танцы, п'есы і ансамблі, творчыя заданні). На 1993 год плануецца перавыданне «Школы ігры на цымбалах» І. Жыновіча, выпуск для дзяцей «Верасנёвага вальса» Л. Захлеўнага, «Беларускіх народных абрадаў», зборніка «Прэм'ера песні» і інш. Хто дапаможа нотнай літаратуры ўбачыць свет: заможны спонсар ці ўсё ж такі дзяржава?

Сёння мы шмат гаворым пра рынак, пра камерцыю, прыбыткі. Але ж варта памятаць: калі мы зэканомім на культуры сёння, то заўтра можам апынуцца ля разбітага карыта.

**Ганна ЛАГУН.**

**КАЛІ МАТЭРЫЯЛ БЫЎ ПАДРЫХТАВАНЫ ДА ДРУКУ, у рэдакцыю пазваніла Валянціна Лучанок і паведаміла, што днямі гандаль даў заказ на сувенірны зборнік народных песень «Вяночак» тыражом 4 тысячы экземпляраў. Падаражаўшае выданне пры такім накладзе застаецца нерэнтабельным. А ў выдавецтве «Беларусь» зноў пагаворваюць аб тым, каб зняць гэтую кніжку з вытворчасці.**

**Замкнёнае кола?..**

## Парады на ўсякі выпадак

Няякасная нітка дрэнна праходзіць праз іголку швейнай машыны. Прадухіліць парывы і палегчыць працу можна з дапамогай вашчэння. Нітка з катушкі сыходзіць праз канаўку ў кавалку воску ці парафіну. Пасля такой апрацоўкі яна лёгка праходзіць праз вушка іголкі.

ПАПЕРА

Калі на трохгранным надфілі насечка зроблена з усіх бакоў, а апрацоўваць трэба складаную паверхню, вопытныя майстры раяць закрыць непрацуючы бок надфіля палоскай шчыльнай паперы.

Шкло можна рэзаць з дапамогай паяльніка. Асабліва зручны гэты спосаб, калі трэба зрабіць разрэз па складанай лініі. На краі шкла ў пачатку лініі надфілем робіцца рыска, за некалькі міліметраў ад яе джалам паяльніка праграецца шкло да той пары, пакуль ад рыскі да месца нагрэву не з'явіцца трэшчына. Так, паступова рухаючы паяльнік, праходзяць па ўсёй лініі. Перыядычна ахалоджваць шкло мокрай анучай.

Кавалак ластыку з некалькімі надрэзамі, які замацоўваецца ў старым пэндзліку, — добрае плакатнае пяро.



Якім спосабам можна вызначыць палярнасць акумулятара ці выпрамляльніка, калі пад рукой няма прыбора? У слоік з вадой апускаюць два правады з аголенымі канцамі і збліжаюць, пакуль на адным з іх не пачнуць з'яўляцца бурбалкі газу. Гэты провад адпавядае адмоўнаму полюсу крыніцы току.

ПЕНАПЛАСТ

Многія гаспадыні, каб захаваць каструлю з ежай гарачай, ухутваюць яе коўдрай. А можна зрабіць вось такі тэрмас-кантэйнер з пенапласту. Асабліва карысны ён будзе ў сям'і, дзе ёсць дзеці-школьнікі.

## Батарэйкі яшчэ паслужаць

Як аднавіць працаздольнасць «сеўшых» элементаў тыпу «Крона» і іншых?

Каб аднавіць некаторыя гальванічныя элементы, напрыклад «Крону» 336Л, 373, 334, неабходна, каб яны былі спраўныя. На корпусе элементаў не было пацёкаў электраліту, а сам корпус не быў пашкоджаны. Вельмі важна, каб батарэйкі добра захавалі свае цынкавыя электроды, інакш іх падзарадка — дарэмная праца. Акрамя таго, аднаўленню паддаюцца гальванічныя элементы, разраджаныя не больш чым на 75 працэнтаў намінальнага напружання. Як бачым, аднавіць можна не кожную батарэйку, але ўсё ж варта паспрабаваць.

F1 0,5A C1 2,0
R1 910к
V1...V4
~220В
R2 910к
C2 1,0

Падзараджаюцца батарэйкі гэтаксама, як і міні-акумулятары, з дапамогай спецыяльнага выпрамляльнага прыстасавання, якое падключаецца да хатняй электрасеткі. Такія прыстасаванні раней прадаваліся ў магазінах радыётавараў. Цяпер іх можна купіць, у асноўным, у спекулянтаў, пакуль яшчэ за 300—400 рублёў. Звычайна выпрамляльнымі прыстасаваннямі для падзарадкі міні-акумулятараў аснашчаюцца слыхавыя апараты. Батарэйку падключаюць клемамі + і — да адпаведных вывадаў выпрамляльніка. Дарэчы, яго можна зрабіць і самому, маючы неабходныя радыёдэталі і вопыт радыёаматара-канструктара. Адзін з варыянтаў канструкцыі зараднага прыстасавання паказаны на малюнку. Яно разлічана на ток 0,5А і напружанне каля 4В.



Кандэнсатары могуць быць любога тыпу з напружаннем не менш чым 200В. Дыёды 1—4 можна выбраць тыпу 226Б ці Д7А. У гэтым выпадку выкарыстоўваюць стабілітрон тыпу Д815Г, які захавае дыёды пры выпадковым адключэнні нагрузкі. Рэзістары 1, 2 служаць для разраду кандэнсатараў пасля адключэння схемы ад сеткі. Зараднае прыстасаванне забяспечвае ток 50мА за час падзарадкі каля 15 гадзін.

РЫБАЦКІЯ ЗГАДКІ

## Якая рыба бярэцца ў жніўні

У пачатку месяца істотных змяненняў у паводзінах рыбы не назіраецца. Лоўля па-ранейшаму не песціць рыбалова.

Тэмпература паніжаецца паступова. У другой дэкадзе ночы ўжо больш халодныя. Па раніцах — туман і шмат расы. Ажывілася некаторая рыба. Яна як бы скінула здранцвенне і з вялікім спрытам шукае корм.

Спраўней пойдуць справы ў спінінгіста.

Шчупак і акунь ідуць нават на кружкі, жэрліцы і дарожкі. Даволі часта трапляюць гэтыя драпежнікі пры вертыкальным бляшненні.

Паплавочнікі працягваюць лавіць акуня (на чарвяка і малявак). Галавень, ялец, плотка добра ловяцца нахлыстам і ў праводку.

У ходзе донныя вудзільны. Мянтуз больш актыўна бярэцца ў непагодлівыя ночы.

У жніўні рыбу патрэбна шукаць у больш глыбокіх месцах (3—3,5 м). У рэках ловіцца лепш на сярэднім і слабым цячэнні.



Адміраюць і апускаюцца на дно мікраскапічныя водарасці. «Красаванне» вады спыняецца, яна робіцца больш празрыстай. Рыба ловіцца, у асноўным, за выключэннем мянтуза, удзень і ўвечары. Лепш ў пахмурнае надвор'е.

## А паклёўка была

Як пазбегнуць «пустых» паклёвак пры лоўлі доннай вудай?

Самы лепшы сігналізатар —паплавок. Але сачыць за ім бывае цяжка, калі стаіць хваля, няхай нават невялікая. Больш таго, паплавок пры нацягванні лёскі аказвае рыбе прыкметнае супраціўленне, і яна, адчуўшы нядобрае, пакідае насадку.

Вось чаму лёска ад вудзільна да кручка павінна быць свабоднай. Пры лоўлі з берага паплавок патрэбна класці на камень ці бервяно з запасам паслабленай лёскі (да метра). Калі ловіце з лодкі, кладзіце паплавок на борт, а запас лёскі—на дно лодкі.

Ёсць і іншы варыянт з паслабленай лёскай, які прымяняюць пры лоўлі карпа, сазана і буйнога карася. Яго вартасць у тым, што пасля закіду донкі на лёсцы робіцца пяцелька, якая накідваецца на гусінае пяро. Яго ўтыкаюць у пясок ля самай вады. Пры паклёўцы пяро выцягваецца з пяску, «уцякаючы» ў ваду. Гэта і ёсць час падсечкі.

## Нарыхтоўкі без цукру

**Выдатны спосаб захоўвання фруктаў і ягад на працяглы тэрмін здаўна існаваў у народзе.**

Фрукты неабходна старанна памыць і прасушыць. Потым узяць драўляную дошку ці ліст фанеры, змазаць любым алеем. Ачышчаныя ад костачак фрукты прапусціць праз мясарубку і пакласці на дошку тонкім слоем, не больш аднаго сантыметра. Паставіць сушыць у цёмнае месца, якое добра праветрываецца. Пры гэтым асабліва трэба сачыць за тым, каб на фруктовы «фарш» не траплялі прамыя сонечныя прамяні: любая цеплавая апрацоўка змяншае колькасць вітамінаў, што ў ім змяшчаюцца. Праз дзень вітамінная ляпёшка гатова. Яе звычайна скручваюць трубачкай, перакладваючы пласты паперай ці калькай. Такі прысмак можна дабаўляць у чай, варыць з яе кампот, есці ў сухім выглядзе. Захоўваецца такая ляпёшка гадамі.

